Цана асобнага нумару 20 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 25. Вільня, Серада 18 Жніуня 1926 г. Год II

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Полацкая вул. 4. — (Wilno, ulica Połocka 4).

Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 6 гадзіны апрача сьвята.

Газэта выходзіць раз у тыдзень.

Падпіска на адзін месяц 1 зл., на 3 мес.—2 зл., на 6 мес.—4 зл., на год—8 зл.

Перамена адрэсу 30 гр.

Цана абвестак:

на 1 старонцы 30 грошаў, на 2 і 3 — 25 грошаў і на 4 — 20 грошаў за радок дробнага друку ўваднэй палосцы. Жадаючыя іншых абвестак павінны зьвярнуцца да Адміністрацыі.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Выходзьма на зьверх!

У папярэднім 24 № „Сялянскае Нівы“ мы казалі, што беларуская сьвядомасьць, беларускі рух абняў шырокія масы народныя. Але абмыліўся-б той, хто-бы думаў, што гэтая сьвядомасьць беларуская кожнаму кідаецца ў вочы. Кідаецца яна ў вочы таму, хто знае наш народ. Але чужніку ня лёгка гэтаю сьвядомасьць навет заценіць (прыкмеціць). Дзіўное зьявішча гэтае выясьняецца тым, што забіты й напалоханы наш народ схаваўся сам у сябе; яго вонкавае жыцьцё, тое, дзе ён выступае перад чужнікамі Палякамі або панамі, зусім накшае, як нутраное жыцьцё ягонае. Гэнае (першае) ён паказуе чужому і няпрыязнаму яму сьвету, гэтае (другое) адкрывае толькі людзём блізкім, зь якімі зьліваецца ў адным пачуцьцю, жаданьню—ідэі. Наш народ, казаў той, як першыя хрысьцяне, жыве ў якіхсь душэўных катакомбах (падзямельлю).

Але ці не пара выйсьці з гэтага падзямельля? Што нам зь яго за карысьць? Той, хто затаіўся із сваёй сьвядомасьцяй, або нічагусенькі ня робіць для беларускае ідэі, дык тады зь яго нямаш жаднае карысьці, або робіць, дык аб ім усё роўна ведае польская паліцыя. Я знаю сялянаў, аб якіх беларускай рабоце ведаюць далеў за іхняю воласьць, а тымчасам яны з войтам у воласьці, з паліцыяй, з вучыцяльмі і іншымі ўраднікамі стараюцца гутарыць папольску. А палякам толькі гэтага й трэба. Баючыся, каб нашая справа ня выбівалася на зьверх, яны, як ходзяць чуткі, забаранілі пісаром і войтам у воласьці, паліцыі, вучыцялём (на'т прыяжджомым із Польшчы) гаманіць із народам пабеларуску. А мы павінны паказаць, што ня будзем ізь імі гаманіць начай як пабеларуску. Дальшым крокам будзе заставіць усіх гэтых ураднікаў гутарыць із намі панашаму; ніхто нас ня можа прымусіць *разумець* польскаю мову, як ня прымусіла калісь маскоўская ўлада Палякоў разумець памаскоўску і кожны Маскаль, што служыў у Польшчы, мусіў навучыцца папольску. Гаварыць пабеларуску трэба ўсюды, як на сяле, так і ў вялікшых мястох нашага краю; дадам, што ў мястох беларускаю мову разумеюць усе як Беларусы (хоць-бы й вырадкі), так і Жыды.

Не хаваймася з роднай мовай, песьняй, не хаваймася зь беларускай кніжкаю і газэтаю! Асаблівая павіннасьць беларускага селяніна пашыраць сваю газэту „Сялянскаю Ніву”, адзінаю абароньніцу сялянскіх інтарэсаў.

Гэтакаю-ж адкрытаю працу трэба весьці закладаючы гурткі Сялянскага Саюзу.

Але гэтага мала. Такая-ж адкрытая адважная праца грамадзкая мае быць пры абіраньню войтаў, валасных радаў і дэлегатаў у паветавыя соймікі і г. п. Зусім накшая рэч была-б, каб валасныя рады і паветавыя соймікі дамагаліся беларускіх школаў. А гэта ўсё можа лёгка стацца, толькі трэба абіраць людзёў сьвядомых Беларусаў, тых, што рупяцца аб народным дабры.

Гэтак-жа трэба бараніці свае гаспадарскія патрэбы.

Гэта ўсё работа легальная, дазволеная законамі, дык за яе нямаш чаго баяцца.

Праўда, на гэта можна адказаць, што вельмі часта за найлегальнейшую працу людзёў бяз дай прычыны страшна караюць. Аб гэтым ведама ўсім і гэта ў тэй ці іншай меры будзе датуль, пакуль ня зьменіцца цяперашняя польская палітыка ў адносінах да Беларусаў.

Але трэба ведаць, што адносіны да нас шмат палепшаюць, калі не адзіночныя людзі, а ўсе мы будзем весьці яўна і сьмела нашаю працу беларускаю. Там, дзе гэтакая праца ў тэй ці іншай меры вядзецца і адносіны Палякоў да нас папраўляюцца. Могуць за дазволенаю законам працу несправядліва і проці закону караць адзінак, але ня ўсіх людзёў. Гэта было-б немагчыма нашым праціўнікам споўніці.

Мы мусім дабіцца нашай нацыянальнай працы грамадзкай агульнага прызнаньня як у грамадзянства, так і ў улады.

Нашыя праціўнікі, хоць і зьдзекуюцца над намі, але ў душы лічаць сьвядомых Беларусаў людзьмі сумленнымі і пасьцівымі, каторыя спаўняюць сваю народнаю павіннасьць. А калі будзем працаваці адкрыта, сьмела, яны будуць адносіцца да нас із павагаю, бо, гэтак працуючы, мы самі сябе паважаем.

Працуючы адкрыта, мы прынамся ўдвая павялічым нашыя нацыянальныя сілы.

*Максім Прынскі.*

З незалежных ад Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры прычываў

**Коопэратыуна-Гандлёвыя Курсы**

НА ЯКІСЬ ЧАС АДКЛАДАЮЦЦА.

Аб часе, калі гэтыя курсы будуць, будзе абвешчана.

## З жыцьця Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

### I. Адзьдзелы Інстытуту.

Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры ўжо адкрыў 3 акружныя адзьдзелы ў:

1) *Вільні, Завальная 7*, з прасторам дзейнасьці на Віленскае ваяводзтва і Лідзкі пав., вылучаючы Вялейскі і Маладэчанскі пав.;

2) *Радашкавічах, Маладэчанскага пав., Заслаўская вул. № 6*, з прасторам дзейнасьці на Вялейскі, Маладэчанскі і Валожынскі пав.;

3) *Навагрудку, Карэліцкая вул.*, з прасторам дзейнасьці на Навагрудзкае ваяводзтва, вылучаючы Валожынскі і Лідзкі паветы.

Апрача гэтага борзда маюць быць адкрыты адзьдзел у *Горадне* на Беластоцкае ваяв. і ў вадным з местаў у Палескім ваяводзтве (у белар. паветах) з прасторам дзейнасьці на гэтае ваяводзтва.

Грамадзяне ў справе адкрываньня гурткоў на прасторы Віленскага і Навагрудзкага ваяв. павінны зварочавацца да свайго адзьдзелу, а з Беластоцкага і Палескага зварочавацца ў Цэнтралю Інстытуту праз Віленскі адзьдзел па адрэсу: Białoruski Instytut Gospodarki i Kultury, m. Wilno, Zawalna 7.

### II. Арганізацыя Віленскага адзьдзелу.

Пры Віленскім адзьдзеле маюць быць арганізаваны такія сэкцыі: a) Гаспадарская, b) Школьная, c) Мастацкая i d) Юрыдычная.

Ужо цяпер арганізавана сэкцыя выдавецкая.

Хто з грамадзянаў хоча працаваць у ваднэй з гэтых сэкцыяў, павінен зарэгістравацца ў Віленскім адзьдзеле.

### III. Да ведама гурткоў.

Як толькі гурток дастане ад адзьдзелу або ад цэнтралі паведамленьне аб залегалізаваньню гуртка, урад гуртка павінен адкрыць запіс у сябры Інстытуту. Ад уступаючага сябра гурток бярэ 2 залатоўкі (1 з. сяброўскае складкі і 1 зал. уступных) і запісуе новага сябра ў асобны назначаны для гэтага сшыток, пры гэтым гурток выдае сяброўскі білет. (Сяброўскія білеты друкуюцца і скора будуць прысланы ўсім гуртком).

Перш-на-перш урад гуртка павінен старацца аб матэр'яльных сяродках, якія апрача сяброўскіх складак могуць ісьці з тэатральных прадстаўленьняў, гульняў і іншых. Дзеля гэтага гурток павінен арганізоваваць спэктаклі, гуляючы беларускія п'есы (дастаўшы дазваленьне ад старасты).

Як толькі зьбярэцца трохі грошы, гурток павінен старацца залажыць бібліатэку-чытальню і выпісаць беларускаю газэту.

Гурток наагул мае права рабіць усё, што абнята статутам, за інфармацыямі патрэбнымі трэба зварочавацца ў свой адзьдзел.

### IV. Як адкрываць чытальню-бібліатэку.

Як толькі ўрад гуртка пастановіць адкрыць чытальню-бібліатэку, павінен ён паслаць заяву да старасты гэтакага зьместу:

Старасту . . . . . павету

у . . . .

Гэтым маем гонар паведаміць Старасты, што Гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры ў в. . . . . . вол. . . . пав. . . . . адкрывае бібліатэку-чытальню ў вёсцы . . . . у доме гр. (прозьвішча гаспадара і №).

У бібліатэцы-чытальні будуць толькі легальныя кнігі і газэты.

Старшыня Ураду Гуртка:

Сэкратар Ур. Гуртка:

№ . . .

Дня . . . . 1926 г.

Калі ў працягу 2 тыдняў ня будзе ад старасты жаднага адказу, то бібліатэта-чытальня лічыцца залегалізаванай.

### V. Аб зборках гурткоў.

Аб усялякіх сходах (зборках) агульных гурткоў, урад гуртка павінен за некалькі дзён да сходу паведаміць аб гэтым сваю валасную паліцыю, падаючы ёй такую заяву:

Камэнданту пастарунку паліцыі
. . . . . воласьці
у . . . .

Гэтым паведамляем, што дня . . . . сёлета ў . . гадзіне ў кватэры гуртка адбудзецца агульны сход гуртка з наступным парадкам дня:

1) Выбары ўраду гуртка,
2) Бягучыя справы.

(Напісаць той парадак, які праектуецца).

Старшыня Ур. Гуртка:
Сэкрэтар Ур. Гуртка:

Дня . . . 1926 г.
№ . . .

Паседжаньні ўраду гуртка могуць адбывацца без паведамленьня паліцыі, калі толькі ўрад захоча.

---

# З УСЯЕ БЕЛАРУСІ.

## Із Заходняе Беларусі.

### Суд над Беларусамі.

9-га жніўня Акружны Суд у Вільні меў разглядаць справу 33-х Беларусаў із Наваградчыны. Як даўно ўжо ёсьць звычаем, вінавацяць іх у камунізьме і розных праступках проці польскага гаспадарства. Справа выглядае вельмі раздзьмуханай. Дзеля таго, што не зьявіліся ўсе сьведкі, справа адложана.

### У Глыбокім беларуская школа із сяма адздзеламі.

8 жніўня Галоўная Управа Т-ва Беларускае Школы пастанавіла заместа праектаванай гімназіі адчыніць у Глыбокім прыватнаю школу беларускаю із сяма адздзеламі. Гэтая школа мае на лета (к налецьцю) ператварыцца ў гімназію. Адзначаем, што гэтакае разьвязаньне пытаньне зусім нормальнае. Тыя дзеці з бліжшых да Глыбокага мясцовасьцеў, што маюць вучыцца сёлета ня вышэй як у 3 клясе гімназіі, няхай сьпяшаюцца ў гэтаю школу.

### Дзіўное злучэньне.

Нядаўна сталася злучэньне польскае нацыянальнае царквы з праваслаўнаю царквою ў Польшчы. Злучэньне гэтае вельмі небясьпечна для праваслаўных Беларусаў. Аб гэтым дамо стацьцю ў наступным № „Сял. Нівы“.

## Л і с т ы.

### Якая адміністрацыя пануе на нашых землях, як адбываюцца суды над Беларусамі — ярка паказуе нам наступное здарэньне.

У Наваградзкім лясьніцтве быў лясьнічым нейкі Дуброва Красінскі; жыў ён у вёсцы Магілініцы. Добры майстра да выпіўкі і вечарынак, ён надта часта бываў у гасьцёх на чарку гарэлкі і каўбасу ў суседняга мельніка вёскі Сімкова, Міхася Чамярэўскага; сюды прыходзіла кумпанія, каб пабаляваць з шаноўным панам: ведама, што з лясьнічым мужыку трэба жыць у згодзе, каб ня было дарэмных пратаколаў і судоў.

Улашчаны шчодра пан лясьнічы ў пачуцьці свае магутнасьці пачаў сялянам абяцаць месцы лясьнікоў; за гэта загадзя браць падарункі. З аднаго Шчоткі, узяў грамафон, з другога, кажуць, кажух і залатоўкі, але ведама месца было толькі аднаму—грамафон не перамог.

Пакрыўджаны собсьнік грамафона, селянін Шчотка, зьвярнуўся да лясьнічага Дубровы-Красінскага, каб той аддаў яму назад грамафон. Бачачы такую справу, лясьнічы адказаў Шчотцы, што дарма грамафона ня браў, а купіў у яго за грошы.

Тады селянін Шчотка падаў лясьнічага Дуброву-Красінскага ў суд, выдажыўшы ў судзе ўсю справу за што і як ён аддаў лясьнічаму грамафон і на гэта прадставіў некалькі сьведак.

Паміж гэтых сьведак быў выстаўлены сьведкаю і Міхась Чамярэўскі.

На судзе сьведкі давялі, што лясьнічы Дуброва-Красінскі за грамафон не плаціў, а ўзяў ад Шчоткі падарункам (лапан, хабар) за абецаную пасаду лясьніка, якой Шчотка не дастаў.

Судзьдзя пакою ўсіх сьведак забракаваў з прычыны быццам радні сьведак да Шчоткі, а разам адклікаў і сьведку Чамярэўскага з тае прычыны, што Чамярэўскі хрысьціў дзіця ў Шчоткі. Гэтакім парадкам Дуброва-Красінскі ад суду выкруціўся, але-ж трэба адзначыць, што сам лясьнічы, як-бы гэта належыла ўрадніку, скаргі ў суд за зьнявагу на Шчотку не падаў.

Справа гэтая гэтакім парадкам была ліквідавана, а пан Дуброва-Красінскі пачаў імсьціцца і жальбіту і сьведкам. На Шчотку і Чамярэўскага рабіў пратаколы, што быццам яны кралі дровы. Па пратаколу лясьнічага Шчотка быў асуджаны на месяц турмы, але пасьля пусьціў пагалоску, што калі Шчотка перапросіць яго і пагодзіцца і, значыцца, аб грамафоне забудзецца, то ён яго ад турмы аслабодзіць. Як ведама, і запраўды суд быў скасаваны і Шчотка ў турме не сядзеў.

Але-ж далей пачынаецца цікавая гісторыя з Чамярэўскім.

Некалькі разоў Дуброва-Красінскі падсылаў да Чамярэўскага пасланцоў, каб Чамярэўскі перапрасіў яго і пагадзіўся і што пратакол ён пасьля гэтага скасуе, але Чамярэўскі, будучы Богу душой вінны, пастанавіў ня йсьці на гэты глум, а чакаць справядлівасьці суду.

Вызваны ў суд, Чамярэўскі давёў у судзе „alibi“, бо ў той дзень, у які паказана ў пратаколе, што ён краў скарбовыя дровы, ён быў у Наваградку і плаціў падаткі, пры гэтым трэба ведаць, што з доваду лясьнічага, ён злавіў Чамярэўскага ў дванаццаць гадзінаў днём, гэта значыцца, як раз як Чамярэўскі быў у м. Наваградку.

Справа засталася не ў карысьць лясьнічага Дубровы-Красінскага і лясьнічы парушыў справу нанова.

І вось, папаўшыся ў сваім довадзе, цяпер пры разгляду дзела другі раз лясьнічы ўжо паказаў, што злавіў Чамярэўскага ў пяць гадзінаў нараніцы; жадных сведак прадставіць ня мог.

Гэтакім парадкам на падставе толькі галаслоўнага доваду лясьнічага судзьдзя даў Чамярэўскаму адзін месяц турмы, пры гэтым трэба ведаць, што лясьнічы ня надта знаў свой абход, бо тое месца, дзе быццам ён злавіў Чамярэўскага, улетку няпраездная з прычыны балотнага багна.

Гэты суд адбыўся ў м. Уселюбе 19 лістапада летась, а 20 лістапада адвакат Чамярэўскага падаў заяву ў Наваградзкі Акружны Суд аб выданьню копіі пастановы гэтага суду для падачы касацыі.

З Чамярэўскага патрабавалі каўцыі—100 залатовак (злотых), якія ён таго-ж 20-га лістапада ўнёс у мясцовую скарбовую касу, бо яго ад разу-ж пасьля суду хацелі пасадзіць у вастрог і далі тры дні часу на заяву (паданьне) аб копіі пастановы суду.

Пры падачы ў Акружным Судзе 20 лістапада заявы аб копіі пастановы суду сэкрэтар Акружнага Суда, здаецца Адамовіч, сказаў Чамярэўскаму, што копію ён дастане праз воласьць у свой час. Тым часам копіі суд ня высылаў і Чамярэўскі некалькі разоў быў у гэтага сэкратара Акружнага Суду каральнага адзьдзелу, просячы каб ён барждзжэй выдаў гэтую копію для паданьня касацыі, але сэкрэтар чамусьці ўсё адцягаваў і копіі ня выдаваў. Які-ж быў зьдзіў Чамярэўскага, калі замест копіі вось гэтымі днямі зьявіўся да Чамярэўскага камандант пастарунку каб узяць ў турму на адседку кары. Ніякіх довадаў у Чамярэўскага ня прыймаў і павёў яго ў Наваградак.

Тады Чамярэўскі кінуўся сам у Акружны Суд да таго самага сэкратара, здаецца пана Адамовіча, з пытаньнем і скаргай, чаму ён яму ня выдаў копіі пастановы суду ў яго справе і цяпер яго ц гнуць у турму. Але тут сталася ня чуванае ў судовай справе, тым болей Акружнага Суду, здарэньне, сэкратар катэгорычна заявіў, што жаднага паданьня (заявы) ад Чамярэўскага ў суд не паступала і ніякія довады Чамярэўскага, што паданьне свае ён злажыў яму самому ў рукі 20 лістапада, сэкратару не памагалі. Тады Чамярэўскі хапаючыся за саломіну, каб не ўтапіцца, зьвярнуўся да пісца адваката Аляксюка, п. Мюскевіча, які бачыў, будучы ў Акружным Судзе 20 лістапада, як Чамярэўскі сваю заяву падаў сэкратару Акружнага Суду і вось гэты Мюскевіч разам з Чамярэўскім пайшлі йзноў у Акружны Суд і пасьля войстрай спрэчкі Мюскевіча з сэкратарам Акружнага Суду Мюскевіч сам знашоў заяву Чамярэўскага ў свой час запісанаю 20 лістапада ў дзеньнік. Але-ж пасьля гэтага цягнулася яшчэ тры дні і тры дні Чамярэўскі хадзіў пад штыхом паліцыянта, пакуль яго звольнілі ад турмы і йзноў абяцалі выдаць копію пастановы.

Дык вось якія парадкі пануюць у каральным адзьдзеле Акружнага Суду пад рукою такіх сэкратароў паноў Адамовічаў і як лёгка на'т і ня беднаму Беларусу дабіцца праўды. А што-ж рабіць беднаму, які цягаецца ў суд за 40—50 вёрстаў ад Наваградка? Папрабуй, мужычку, найсьці праўду ў такога сэкратара!

Чым уся гэтая справа кончыцца надта цікава?

*Наваградзкі.*

## З Радавай Беларусі.

### Маскоўскія чарнасоценцы і сьвядомасьць сялянства.

Нядаўна ў „Савецкай Беларусі“ і „Звезде“ быў надрукаваны ліст якогась „Белорусса“ з Полацку пад назовам „Вражда из за языка“. „Белоруссам“ аказаліся два старыя маскоўскія чарнасоценцы: „статскій совѣтникъ“ Пігулеўскі і „присяжной переводчикъ“ (ён-жа „пісьменьнік“) Пшчолка. Яны даводзілі, што беларусізацыя не патрэбна і навет шкодна, бо... беларускі народ ня любе роднае мовы і не разумее яе.

З боку беларускага быў дадзены на гэтаю правакацыйную ману, хоць не заўсёды так удачны, як-бы хацелася, але даволі энэргічны адказ. Напасьледак найлепшы адказ дало само сялянства. З прычыны шостых угодкаў вызваленьня Менску ад Палякоў сяляне Расонскага раёну, Полацкае акругі падалі заяву ў Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Беларускае Рэспублікі. Заява надрукавана ў № 155 „Савецкае Беларусі. У гэнай заяве сяляне паміж іншым кажуць: „вышла з векавечнага паднявольля беларуская мова, мова ха-

---

# З падарожных зацемак.

### (Успаміны).

Па скончаньню годняе ўнівэрсытэцкае працы, мне пашчасьціла на летні час выехаць з надзвычайна дымнае, хоць і залатое Прагі (як завуць Чэхі за яе мінуласьць і хараство) — на правінцыю Чэхаславаччыны.

Ніколі я не адчуваў гэтак рэзка розьніцу ў паветру места і провінцыі як у гэты раз. Дый ня будзе дзіўным чаму, калі прадставіць сабе сталічную Прагу, як прамысловы цэнтр із сотнямі першае велічыні хвабрыкаў, заводаў, вузлом чыгунак, дзясяткамі тысячаў аўтамабілеў, якія ўсе разам даюць хмары дыму і газы, ахутуючы літэральна ўсё. Навет па ад'езьдзе 3—5 станцыяў, на далячыні 25 і болей кілёмэтраў, нельга разпазнаці места за дымам. І вось выехаўшы, у пяршыню праз адчыненае вакно ў вагоне бачыш чыстае неба, адчуваеш сьвежае паветра і сонца, кідаючае касулькі, не здаецца ўжо цёмным дыскам.

Пазіраеш у вакно...

Чэскі масыў. Гарыстая мяйсцовасьць з стромістымі скаламі спускаецца да даліны ракі Лабы (Эльбы) ў усходнім кірунку; кавалкі культурнае выраблёнае ральлі, штучны лес і раськіданыя вёсачкі, робяць малюнак — краявід надзвычайна харошым і навет романтычным. Абачыўшы лес мімавольна думка перакідаецца на прыраўнаньне з магутным лесам беларускім. Пераносісься думкай у далёкую ў прасторы, але так блізкую ў думках, Бацькаўшчыну.

Калыханьне і аднатонны грукат колаў цягніка вабіць яшчэ далей да развагі і борзда зусім аддаесься думкам—успамінам.

Устае перад вачыма ў сінь ахутаная Белавеская пушча, балоты і лясы Беларусі з іх таемнай чароўнай музыкай, родныя вёскі... Залятаеш думкай у сялянскую хату і бачыш там тое непрагляднае гора, якое апанавала селяніна. Хочацца памагчы яму ў ягонай гаротнай працы, праліць сьвятло навукі; хочацца ходацца за права і праўду. Верыцца, што час павароту да роднага карэньня народнае гушчы борзда настане...

І разам з песьняром Якубом Коласам кажаш:

„Мой родны кут, як ты мне мілы,
Забыць цябе ня маю сілы...
...К табе я ў думках залятаю
І там душою спачываю...“

А малюнкі—краявіды перад вачыма праносяцца; думкі-ж лятуць і лятуць...

Цягнік спыняе свой шпаркі бег і задзержуецца. Думкі адразу абрываюцца, ад каламесы, што заўсёды пануе на болей-меней значнейшых станцыях. Уваходзяць новыя падарожныя ўжо ў пераважнай большасьці сяляне. З выгляду яны дужыя, мужныя і таўстыя; добра і чыста апранутыя.

З нямецкаю спакойнасьцяй, разсядаюць на свабодныя мейсцы ў вагоне й каратаюць падарожны час чытаньнем газэтаў, або праз скарасьпелае падарожнае знаёмства, гутаркаю. У шмат каго з іх можга пабачыць сакольскія значкі. Гэта сябра магутнага чэскага сакала.

Сакольская арганізацыя, гэта найвялікшая арганізацыя духовага й фізычнага ўзгадаваньня, якой Чэхі галоўна прычыніліся да незалежнасьці Чэхаславаччыны. Ідэю саколства добра зразумелі ейныя закладчыкі: Тырш і Фюгнэр у пачатку другое паловы 19 стагодзьдзя, а лічба сакалоў і саколак даходзіць да 500 тысячаў. Гэткім парадкам саколства гэта народнае апалчэньне.

Чуецца гутарка аб Усесакольскім зьлёце ў 1926 годзе, аб адчыненьні найвалікшае сакольні Тыршовай.

— Выбачайце калі ласка, вы Русы?—чуецца пытаньне сядзячага сталага Чэха.

— Не ня Русы, а Беларусы, — адказую я.

— Калі Бела-*русы* — кажа Чэх, націскаючы на другую палавіну гэтага слова — дык значыцца й Русы.

Як усюды заграніцаю, так і ў Чэхаславаччыне нам вельмі шкодзіць назоў „Беларус“. Людзі

моў, мужыкоў, як яе абзывалі верхаводзячыя з пануючых нацыяў.

У нашых сёлах, вёсках, на хутарох, пачалі, як грыбы пасля цёплага дождżыку, расьці школы і наагул культурныя ўстановы, дзе праца й абслугаваньне жыхарства праводзяцца на роднай, матчынай мове"...

„Усе гэтыя дасягненьні здабыты дзякуючы правільнаму разьвязаньню нацыянальнага пытаньня радавай уладай, грунтуючыся на палітыцы камуністычнай партыі.

Шэсьць год, як нас прызналі за людзей. Савецкая ўлада будуе новую вольную Беларусь, адраджае загнаную культуру й гаспадарку..."

„Але яшчэ ёсьць і такія, якім усё гэта агідна, якія любяць „нашу Великоруссию" і ня хочуць прызнаць другіх людзей. Яны нашу мову называюць „мешанінай з розных сартоў мукі", у якой найбольшая частка расейскага сорту, нашу культуру—„мужыцкай культурай". Нам прыходзіцца чытаць і чуць такія думкі навет у газэтах. Мы пратэстуем проці такой „праўды", лічачы, што гэта ізноў спробы зьдзекавацца над працоўным народам, што цярпеў зьдзекі стагодзьдзямі".

Да заявы прыкладзена на 42 лістох 3.065 сялянскіх подпісаў.

### Жыдоўская калёнізацыя.

Зараз істнуе 146 жыдоўскіх сельска-гаспадарчых калектываў, якія маюць 14.755 дзесяцін. Гэта апроч жыдоўскіх сельска-гаспадарчых пасёлкаў. Усяго да 1926 году на сельска-гаспадарчую працу перайшло 22.881 жыдоў. У 1926 годзе на зямлю будзе пасаджана яшчэ 750 сем'яў.

Ува ўсіх жыдоўскіх сельска гаспадарчых калектывах узяты курс на вядзеньне культурнае гаспадаркі, шмат дзе ўжо ўтвораны малочныя і сыраварныя гаспадаркі і ўтвараюцца падсобныя сельска-гаспадарчыя прадпрыемствы.

„Савецкая Беларусь" № 155.

### „Беларусізацыя".

*Як салодка жывецца беларусаведам у Радавай Беларусі.* Здаецца каму, каму, а беларусаведам павінна жыцца добра тамака, дзе сам урад і ўрадовая партая праводзіць беларусізацыю. А тым часам, хто-бы гэтак думаў, дык вельмі абмыліўся-б, бо ёсьць наадварот. Есьць мноства фактаў, што маюцца беларусаведы шмат гарэй за іншых. Як прыклад, прыводзім ліст із Слуцка, надрукаваны ў 155 № „Сав. Бел.". Вось ён:

„Вучыцель М., як выкладчык беларускае мовы, працаваў штодзенна болей месяца на другіх курсах па перападрыхтоўцы працаўнікоў міліцыі. За гэтую працу яму па стаўках саюзу трэба было дастаць 60 рублёў.

Кончыліся курсы. Пашоў М. да начальніка міліцыі па грошы, пэўны, што яму заплацяць усё без адмовы. Як-жа ён зьдзівіўся, калі начальнік адказаў, што няма сродкаў, і М. можа за сваю працу дастаць толькі 30 рублёў. Як ні стараўся М. пераканаць начальніка, што гэта несправядліва, што аб гэтым трэба было гаварыць раней, што за працу на першых курсах яму-ж заплацілі па стаўках саюзу, нічога ня вышла. Начальнік быў цьвёрды, як скала.

Пасьля гэтага М. астаўся адзін паратунак — прасіць у саюзе абароны сваіх інтарэсаў. Саюз заступіўся за свайго сябру і прапанаваў начальніку выплаціць па стаўках.

Гэтым часам стары начальнік выехаў на другую працу. Калі М. зьявіўся да новага начальніка, то той набавіў сьпярша 10, а потым яшчэ 5 рублёў. М. не згадзіўся на такую прапанову і патрабаваў поўнага разлічэньня. Начальнік нейкі час адмаўляўся тым, што няма сродкаў, а потым прапанаваў узяць пакуль што 45 руб., а астачу, 15 руб., у канцы месяца. М. згадзіўся на такую прапанову.

Прайшоў месяц.

М. ізноў падаў заяву, каб яму выплацілі астачу. На другі дзень ён зайшоў у гаспадарчую частку міліцыі па грошы. Там яму з усьмешкай паказалі заяву з лаконічнай рэзалюцыяй начальніка „Нет сродков".

Гэта яшчэ раз паказала М., што яму прыдзецца не адзін раз схадзіць у міліцыю па запрацаваныя грошы. Каб як небудзь пакончыць з гэтай валакітай, М. падаў другую заяву ў саюз.

Што будзе далей, пакуль што няма ведама.

Цікава толькі адно: няўжо так цяжка адшукаць усяго 15 руб., каб разьлічыцца з вучыцелем за яго працу? П. А."

## Беларусы у Лацьвіі.

### Беларускі Адзьдзел узноўлены.

Кабінэт Міністраў 28 ліпня разгледзіў пытаньне аб аднаўленьні дзейнасьці Беларускага Адзьдзелу пры Міністэрстве Асьветы.

Пастаноўлена дзейнасьць Беларускага Адзьдзелу зараз-жа аднавіць.

Пытаньне аб заўсёдным кіраўніку Беларускага Адзьдзелу, як і папераджаў Міністар Асьветы беларускай дэлегацыі 30 чэрвіня, будзе разгледжана асобна. Часова спаўняючым абавязкі кіраўніка Адзьдзелу назначаны дзелавод Адзьдзелу грам. Г. Плыгаўка.

Большасьць латыскіх газетаў вітаюць узнаўленьне Беларускага Адзьдзелу.

І мы, забітыя Беларусы з-пад Польшчы, вітаем узнаўленьне Беларускага Адзьдзелу ў Лацьвіі і хочам лічыць яго знакам павароту ў другі лепшы бок лацьвійскай палітыкі ў адносінах да Беларусаў. Ня можа быці сумлеву, што патрэбы Латыскага й Беларускага Народаў вымагаюць прыязных адносінаў паміж імі. Нязгода а тым балей перасьледаваньне аднаго другім маглі-б прывесьці ў будучыні да згубы абодвых.

### Пераклад беларускіх вершаў на латыскаю мову.

Шчыры прыяцель беларускі, латыскі паэта Ян Райніс пераклаў некалькі беларускіх вершаў на латыскаю мову. Вершы надрукаваны ў 2-х нумарох газэты „Jaunakas Žinas".

### Уцекачы з БСРР.

Нядаўна пераз лацьвійскаю граніцу перайшлі з Радавай Беларусі грам. К. Сьцяпура і М. Прахараў. Абодвым лацьвійскі ўрад выдаў эміграцкія т. зв. нансэнаўскія пашпарты.

К. Сьцяпура 31.VIII. паехаў пераз Нямеччыну ў Прагу. М. Прахараў зьбіраецца ў Францыю.

## НАВІНЫ.

— **Папраўка.** У „Навіны" 24 № „Сял. Нівы" у зацемцы „Што будзе з Паўлюкевічам?" з карэктарскага недагляду сталася прыкрая абмылка; заместа:

„Іншы ваявода пэўне *захоча* дзяржаць Паўлюкевіча", мае быць: „Іншы ваявода пэўне *не* захоча дзяржаць Паўлюкевіча".

— **Канфіскацыя беларускае газэты.** Камісар Ураду на м. Вільню канфіскаваў № 5 „Народнае Справы".

— **Беларускае веча ў Вільні** было 8 жніўня. Прамаўляў пасол Б. Тарашкевіч і мелі прамаўляці паслы С. Рак-Міхайлоўскі і Шапель, але раней чым да гэтага дайшло, паліцыя веча разагнала. Арыштаваны В. Радзюк, Сьвецкі, Шэрашнеўскі і якісь сталяр. Учасьнікі веча, каторыя складаліся блізу з адных віленскіх работнікаў, горача віталі беларускіх паслоў. Народу на вечу было звыш тысяча.

— **М. Байкаў і М. Гарэцкі.** Практычны расійска-беларускі слоўнік, выданьне 2-ое выпраўленае і дапоўненае. Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі. Менск. 1926. (190 балонак, прыблізна 20.000 словаў, цана 1 рубель).

— **Памогі безработным інтэлігентам.** На гэтых днёх Фонд Безрабоцьця ў Вільні пачне прыймаць заявы на памогі безработным інтэлігентам.

## † Памер ксёндз-Ліцьвін Антоні Шыленіс—прыяцель беларусаў.

Нядаўна ў Дзьвінску памер кс. Антоні Шыленіс. Нябошчык належыў да тае значнае часткі літоўскае інтэлігенцыі, што шчыра Беларусам спагадае. Але кс. Антоні Шыленіс ня толькі спагадаў, Ён прыймаў актыўнае ўчасьце ў беларускім руху, бо выкладаў *пабеларуску* рэлігію ў Беларускай Гімназіі ў Дзьвінску, а так сама ў Дзьвінскай меставай школе Беларускай. Выкладаў у гэтых школах ад пачатку іх быцьця ажно дагэтуль. Глыбокая памятка аб нябошчыку асталася ў сэрцах дзьвінскіх Беларусаў, асабліва ў ягоных вучаньнікаў. Усюды і заўсёды, як і апошні раз на акце абітурыентаў, казаў Ён: «Дзеці, ня чурайцеся свайго роднага, бо памрыце!»

У панядзелак 21-га ліпня ў 6 гадзінаў увечары быў пахоў кс. Ант. Шыленіса. На смутнае разьвітаньне зь нязьменным прыхільнікам беларускага народу забраліся дзеці беларускае пачаткавае школы, вучаньнікі Беларускае Гімназіі, вучыцелства і беларускае грамадзянства м. Дзьвінску.

За магілай ішла шмат тысячная таўпа народу. На магілу ўзложана 7 вянкоў ад розных беларускіх арганізацыяў. З прамовамі выступалі А. Якубецкі і У. Гусарэвіч.

Друкуючы гэтаю, хоць спозьненаю, вестку, рэдакцыя «Сял. Нівы» ня можа ня прылучыцца да смутку, які ахапіў Беларусаў-Дзьвінчан з прычыны сьмерці нашага дарагога прыяцеля, бо іхні смутак ёсьць агульна-беларускім смуткам. Сьпі-ж супакойна, Прыяцелю наш, а Беларусы ніколі не забудуцца Цябе, як не забудуцца й Твайго братняга нам Народу Літоўскага.

## Із заграніцы.

### Камуністычны антысэмітызм у ССРР.

Аб гэткім антысэмітызьме (ненавісьці да Жыдоў) наказуе газэта «Руль». Паміж іншым звольнены із займаных урадаў гэткія Жыды: дырэктар прамысловага сындыкату Аўстрых, камісар Пячэрскі, старшыня акружнага спаўняючага камітэту Віцебскага Гольдман, дырэктар тэкстыльнага сындыкату ў Маскве Лапідус, дырэктар маскоўскага землеробскага трэс-

неасьвядомленыя аб нашай нацыянальнай самабытнасьці судзяць аб нас паводле аднаго назову, дык і разумеюць нас як якуюсь прычэпку да Маскалёў. Трэба доўга паясьняць, даводзіць, што падобных прыпадкаў, калі два ці некалькі народаў маюць падобныя або аднолькавыя імёны, ёсьць шмат (Сербы лужыцкія і Сербы балканскія, франконцы—часьць нямецкага народу і Франкі, Французы і г. д.), каб пераканаць гэткага зьмыленага назовам чужніка аб асобнасьці нашага народу. І тутака, мусіць у тысячны ўжо раз, прышлося рабіць тое самое. Паясьніўшы аб назовах, указалі на нашаю асобнасьць антраполёгічнаю, вынікаючаю зь яе языковаю і этнографічнаю ды на слаўнаю гісторыю нашага народу. Закончылі аб лічбе нашага народу і прасторы, займаным ім. Даведаўў апошку, што Беларусаў (ці начай Крывічоў) ёсьць ажно дванаццаць міліёнаў, наш спадарожнік ускрыкнуў: „Дык вы можаце быць незалежнымі!".

Мы пацьвердзілі, што бяссумлеву з часам і будзем мець свае незалежнае гаспадарства. І, дзіўная рэч! пасьле гэтых слоў Чэх, горды із свае незалежнасьці, пачувае сябе роўным з намі і блізкім нам.

Ен устае, дзякуе за інфармацыі і прадстаўляецца загадчыкам школы Ф. Ст.

— Адкуль і куды едзеце? — пытаецца нас, ізноў сядаючы на месца.

— Ды вось і самі добра ня ведаем, пакуль што ў Нямецкі Брод, а там пабачым. Наагул едзем падыхаць чэскім паветрам вясковым — адказуем на пытаньне.

— Ах, вось як! Але Нямецкі Брод гэта-ж таксама досыць вялікае места, хоць самое па сабе даволі цікавае, але я радзіў-бы ехаць да мяне ў Прыбыслаў (Przibyslav), 2 станцыі далей. Я дужа рады мець гасьцей і пакажу вам усе асаблівасьці нашае ваколіцы.

Мы згаджаемся і едзем у Прыбыслаў. Яшчэ 2 гадзіне дарогі. Ізноў гутарка.

— Ну, дык як-жа вам падабаецца нашая матухна Прага?

— Прыгожая хоць і дымная. Недарма яе гэткія пісьменьнікі і мастакі як Шатобрыян, Гётэ, Жорж Занд ды інш. прызналі даўно найхарошшым местам у Эўропе.

— Але, але. Харошая, але дымная, гэта ўсе кажуць. Але гэта пасьледкі палітыкі аўстрыяцкага ўраду, які пабудаваў хвабрыкі ў цэнтры места. З часам гэтую бяду паправім. Аглядалі Градчаны (старадаўны замак), Вышаград, Каралёў мост і наагул старавечнасьці? — пытаецца далей. — Ну ведама, дый ня толькі гэтыя памяткі старавечнасьці, але й музэй ды іншыя новыя асаблівасьці.

Пачынаецца цэлая лекцыя чэскае гісторыі. Вучыцель апавядае аб Яне Гусу, Яне Жыжцы, Каменскім, Палацкім, Даброўскім, Іраску, Гаўлічку, Масарыку ды інш. Час праходзіць, мы блізімся да канца нашага падарожжа.

Вось мы ў Прыбыславе, на самым усходзе Чэхіі й граніцы Моравы.

Маленькае гістарычнае места, вядомае з бітваў гусіцкіх, дзе памер Жыжка, перамогшы перад тым нямецкае войска, высіцца на невялічкай гары. Налічае да 3 тысячаў жыхараў.

Рэчка Сазава, якая завіліста цячэ ў нізе скалы, штучны лес, дарогі высаджаныя садовымі дрэвамі, культурныя палі, робяць места й ваколіцы вельмі харошымі.

Гэта тыпічнае чэскае местачка. Касьцёл, музэй краёвы, школа, кіно-тэатр, вось галоўныя асаблівасьці, якія адразу кідаюцца ў вочы незнаёмаму падарожніку; якія можна борзда агледзіць, але якія ня ўсё яшчэ гавораць аб тутэйшых людзёх і іх жыцьцю. Каб пазнаць тое жыцьцё, трэба пажыць якісь час гэтым самым жыцьцём.

*Мікола Іль—іч.*

(Далей будзе).

